Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

25 (533) 24 чэрвеня 2010 года

Кошт **свабодны**






Вырабы з бісера Л.Дабравольскай з узнагародай. *Фота Я. Самсонава*

## Äçåíü çà äí¸ì

**Жахлівыя лічбы прывёў намеснік міністра аховы здароўя РБ Роберт Часнойць: штодзённа выпіваюць ужо 5,9 мільёна беларусаў. Пачынаючы з 2004 года, у нашай краіне медыкі выяўляюць штогод больш за 30 тысяч новых алкаголікаў. Рабочая паездка А. Лукашэнкі ў РФ не прынесла станоўчых вынікаў, бо беларускі парламент адразу адклаў на нявызначаны тэрмін разгляд законапраектаў аб ратыфікацыі дагавора аб Мытным саюзе. Падобна на тое, што Крэмль і Мінск пакуль не гатовы на прынцыповыя саступкі адзін другому, Беларусі ў 2011 годзе “свецяць перспектывы” купляць энерганосьбіты па высокіх рынычных цэнах.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Венгрыя.** Урад краіны пацвердзіў значнае павелічэнне бюджэтнага дэфіцыту і падзенне эканомікі, як у Грэцыі, што імгненна знізіла курс еўра да долара на ўзроўні 1,2 USD.

**Кыргызстан.** Буйнейшы за апошнія 20 гадоў крывавы канфлікт паміж кіргізамі і узбекамі прывёў да масавых хваляванняў, гібелі і раненняў соцень людзей, падпалаў іх жылля.

**Расія.** Расійскія спецслужбы, як заявіў глава ФСБ РФ Аляксандр Бортнікаў, маюць дадзеныя аб намерах шэрагу бандфарміраванняў сарваць зімовую Алімпіяду-2014 у Сочы.

**Галандыя.** У выніку датэрміновых парламенцкіх выбараў перамагла ліберальная Народная партыя, але крайнай яна зможа кіраваць толькі ў складзе правячай кааліцыі.

**Таджыкістан.** Усіх дзяцей краіны да 6 гадоў палалі тройчы вакцыніравары, каб спыніць распаўсюджванне віруса поліяміеліта, хвароба ахапіла там 24 з існуючых 65 раёнаў.

**Польшча.** Адносіны з Расіяй азмрочый факт крадзяжу крэдытных картак у загінуўшых на месцы аварыі пад Смаленскам расійскімі ваеннымі з ачаплення месца трагедыі.

**Балгарыя.** Краіна спрасціла візавы рэжым для грамадзян Беларусі, а таксама Расіі, Украіны і Малдовы,стала больш выдаваць бясплатных віз для розных катэгорый людзей.

**Літва.** Генпракуратура перагледзела абвінавачванні па справе аб падзеях студзеня 1991 года, сярод падазроных беларускі генерал У. Усхопчык, ён быццам загадаў страляць тады.

**Малдова.** На восень прызначылі парламенцкія выбары і рэферэндум па зменах Канстытуцыі, плануецца аб’явіць па-за законам кампартыю і камуністычную сімволіку.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уго Чавес заклікаў насельніцтва да “эканамічнай вайны” супраць буйных прыватных кампаній, якія быццам парагшаюць жыццёвы ўзровень працоўных.

**Егіпет.** Вярхоўны суд прыняў рашэнне, што за шлюб з яўрэйкай грамадзяніна краіны могуць пазбавіць грамадзянства, кожны такі выпадак будзе разглядаца на ўрадзе.

**Кітай.** У краіне знялі блакіроўку з парнаграфічных сайтаў, кітайцы могуць свабодна заходзіць на гэтыя рэсурсы ў Інтэрнэце, раней улады закрылі тысячы такіх сайтаў.

**Бразілія.** Пасля дрэннага ўраджаю цытрусавых, цана на апельсінавы сок у свеце можа яшчэ рэзка павялічыцца, бо палову ўсіх аб’ёмаў соку выпускаюцца на заводах краіны.

**Расія.** Каб падтрымаць экономіку краіны, Цэнтрабанк РФ у 14-ты раз з пачатку крызіса зменшыў стаўку рэфінансавання яшчэ на 0,25 % да ўзроўню – 7,75 % гадавых.

**Швейцарыя.** Амаль гадзіну гуляла па цэнтру горада разам з паліцыяй Цюрыха збеглая цыркавая сланіха па мянушцы Сабу, яна нічога нідзе не разбурыла і не зачапіла людзей.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Міністэрства замежных спраў Беларусі заявіла, што ў гандлі з ёй найбольш абмежавальных мер – 12 з існуючых 28 прымяняе Расія, калі ЕС – 4, Індыя і ЗША – па 2.

**Гомель.** Аб’яднанне “Гомсельмаш” расійскі “Ростсельмаш” публічна абвінавацій ў зрыве паставак і ў нядобрасумленнай канкурэнцыі ў разгар сезона корманарыхтовак.

**Мазыр.** Дырэкцыю Мазырскага НПЗ парадавала рашэнне Украіны захаваць да восені льготны тарыф – 27 цэнтаў па дастаўцы чыгункай з порта Адэсы венесуэльскай нафты.

**Мінск.** Эканоміка Беларусі сёлета дэманструе рост, пацвердзіў міністр фінансаў А. Харкавец, ёсць патэнцыял для павышэння заробкаў у бюджэтнай сферы ў хуткім часе.

**Гомель.** ВА “Гомсельмаш” адправіла ў Кітай першую партыю са 100 машынакамплектаў кармаўборачных камбайнаў КСК-600 (Palesse-FS60), іх зборка далей ідзе там у Харбіне.

**Магілёў.** У канцы года сярэдні заробак на Магілёўшчыне, як паабяцаў кіраўнік вобласці П. Руднік, дасягне толькі 444 долары, цяпер яшчэ 100 арганізацый з зарплатай меньш 200 $.

**Мінск.** Для атрымання ўязных віз толькі праз Інтэрнэт пачало прымаць анкеты польскае пасольства ў Беларусі, пры неабходнасці ў беларусаў пачалі браць і адбіткі пальцаў.

**Пружаны.** У сталіцы папяраэдніх “Дажынак” у цэнтры горада рухнуў балкон 4-га паверха дома 1970 года пабудовы, пры падзенні ледзь не загінула жанчына з гэтай кватэры.

**Мінск.** Пасля міжнароднага прызнання ў Бруселі, Мельбурне якасці найлепшага піва “Портэр” і “Экстра” піўзавода “Аліварыя” яго экспартныя пастаўкі выраслі ў 91 (!) раз.

**Гродна.** Суд прыгаварыў да 9 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці былога галоўнага тэхнолага ААТ “Гроднажылбуд” В. Чарняка за атрыманне хабару ад партнёраў.

**Мінск.** Аб уваходжанні Беларусі ў склад Расіі, як заявіў пасол РФ А. Сурыкаў, не можа быць і гаворкі, Крэмль таксама не бачыць добрай альтэрнатывы на выбарах прэзідэнта.

**Маларыта.** Адразу 5 вучняў Ляхавецкай СШ атрымалі прэмію прэзідэнцкага фонда па падтрымцы талентаў за стварэнне самаробнага тэлескопа і за здымкі зорнага неба.

**Мінск.** Лідэр кампаніі “Гавары праўду” паэт У. Някляеў прэзентацыю новай кнігі “100 твараў беспрацоўя” правёў на цеплаходзе на Мінскім моры, бо за ім назіраюць службы.

**Брэст.** Абласны суд прыгаварыў 65-гадовую настаўніцу-пенсіянерку з Івацэвіцкага раёна да 10 гадоў турмы за забойства нажом зімой сужыцеля на сваім дні нараджэння.

**Мінск.** Адразу двое вядучых атлетаў зборнай Беларусі па фрыстайлу Асоль і Цімафей Слівец са скандалам пакінулі каманду, за мяжой ім прапанавалі больш вялікія грошы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Адным з першых у краіне аб’яднанне “Віцебскі канцэрн “Мясамалочныя прадукты” стварыла свой вялізны сайт, на якім прадставіла ўсе свае прадпрыемствы.

**Орша.** З плана прыватызацыі на 2010 год на пазнейшы час адкладзена акцыяніраванне льнокамбіната, прадпрыемству патрабуецца маштабная мадэрнізацыя і тэхпераўзбраенне.

**Талачын.** Праверка дзяржкантролю выявіла ў мясцовым райкамунгасе неабгрунтаваныя расходы паліва і электраэнергіі амаль на 300 млн. рублёў, завышэнне кошту паслуг.

**Наваполацк.** У абласным конкурсе “Лепшы прадпрымальнік года” перамаглі сярод 14 намінацый ТАА “Лігмод” у сферы будаўніцтва і ІП Алена Лях – аздараўленчых паслуг.

**Віцебск.** Мясцовай прыватнай фірме “Закон і парадак” урад Беларусі даў паўнамоцтвы інвестыцыйнага агента па пытаннях прыцягнення ў краіну замежных інвестыцый.

**Лепель.** Афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў райцэнтры дасягнуў 1,5 % і перавысіў абласны ўзровень, усяго ў 40 малых гарадах Віцебскай вобласці без працы зараз 31 тысяча чалавек.

**Гарадок.** Новым кіраўніком раёна прызначылі Васіля Муранкова, змянілася таксама кіраўніцтва і ў Віцебскім раёне, адміністрацыі Кастрычніцкага раёна горада Віцебска.

**Віцебск.** Як прызнаўся гендырэктар Цэнтра культуры “Віцебск” Р. Басс, фестываль “Славянскі базар” ніколі не акупляўся, ён не праісные без шчодрай дзяржпадтрымкі.

**Віцебск.** З ганаровым тытулам “Міс прыгажосці-2010” сяrод аграрных ВНУ СНД вярнулася дамоў з Арэнбурга студэнтка 2-га курса акадэміі ветмедыцыны Марыя Вялічка.

**Глыбокае.** Адразу ў шасці сельсаветах раёна ў адзін дзень прайшлі выязныя прыёмы насельніцтва па асабістых пытаннях кіруючымі работнікамі, начальнікамі службаў.

**Віцебск.** У аўральным рэжыме па загаду А. Косінца ішлі работы па паглыбленню русла ракі Заходняя Дзвіна, каб да Дня горада пусціць па ёй пробныя прагулачныя цеплаходы.

**Полацк.** Знакаміты арган Сафійскага сабора закрылі ахоўнымі матэрыяламі, пасля рамонту храма яго санітарную апрацоўку правядуць спецыялісты музыкі з Германіі.

**Браслаў.** У беларускім пасольстве ў Маскве прайшла прэзентацыя турыстычных магчымасцей існуючых баз адпачынку ў Нацыянальным парку “Браслаўскія азёры”.

**Наваполацк.** Ганаровы грамадзянін горада В. Дзевятоўскі разам з І. Цханам выйгралі справу ў Спартыўным арбітражным судзе супраць МАК, ім кампенсуюць па 50 тыс. EUR.

**Віцебск.** Патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Кірыл праездам тут паабяцаў восенню прыехаць на адкрыццё і асвячэнне Свята-Успенскага кафедральнага сабора ў абласным цэнтры.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

**250** **USD/тыс. куб. м.** – па такой цане, як агучыла свае намеры кіраўніцтва расійскага супер-манапаліста “Газпрама”, канцэрн збіраецца ў 2011 годзе прадаваць газ Беларусі. Як паказвае развіццё апошніх падзей, сур’ёзных выпрабаванняў не толькі айчыннай эканоміцы, але і нашаму народу ў будучым годзе ўжо не пазбегнуць. Тое, на што да апошняга моманту спадзяваліся беларускія ўлады на нядаўніх позніх перамовах у рэзідэнцыі Нова-Агарова, не адбылося.

Дарэчы, і самі дэбаты спачатку з Д. Мядзведзевым, а потым і з У. Пуціным за зачыненымі дзвярыма былі бурнымі, як пацвердзіў потым беларускі лідэр. Яскравы момант, пасля завяршэння перамоў нічога не было аб’яўлена аб іх выніках. Абодва бакі засталіся на сваіх ранейшых пазіцыях. Масква не падтрымала ніводзін з прапанаваных беларусамі варыянтаў, і, як яшчэ раней да гэтага візіту на прэс-канферэнцыі паведаміў расійскі пасол А. Сурыкаў, пакуль не гатова адмовіцца ад уведзеных пошлін на энерганосьбіты. У выніку потым Палата прадстаўнікоў 14 чэрвеня адклала ратыфікацыю Мытнага кодэкса.

Рэакцыя Крамля была хуткай, праз суткі Д. Мядзведзеў даў беларусам 5 дзён для пагашэння існуючых даўгоў па аплаце паставак з РФ газу. Справа ў тым, што з існуючай ”тройкі” – Расія, Казахстан менавіта Беларусь апынулася ў самым горшым становішчы, гуляючы па агульных правілах. Да 1 ліпеня палітычны гандаль вакол гэтага пытання будзе прадаўжацца, бо які гэта рэжым свабоднага гандлю, калі допускаюцца такія дыскрымінацыйныя меры. Самае сумнае, што тым часам расце і беларускі доўг за газ РФ, які мы аплочваем па 150 $ па цане мінулага года, аргументуючы тым, што расіяне ва ўмовах крызіса адмовіліся павышаць свае ўнутраныя цэны на “блакітнае паліва”.

Праўда, юрыдычна такія дамоўленасці ў адносінах да нас не аформлены і пры пэўным развіцці сітуацыі могуць расіяне прымяніць штрафныя санкцыі і нават абмежаваць аб’ёмы паставак газу. На наступны год нам паабяцалі ў “Газпраме” паставіць 22,5 мільярды кубаметраў газу на агульную суму 5,6 млрд. $. Кругленькая сума, што ні кажыце, і яна ўжо на 70 % болей выдаткаў, якія беларусы заплацілі за паліва ў 2009 годзе. Калі не будзе знойдзены кампраміс па гэтаму і іншых пытаннях, то чарговага вострага канфлікта саюзнікаў напрыканцы года зноў пазбегнуць не ўдасца.

Зразумела, яшчэ ёсць час, каб у апошні момант зняць асноўныя супярэчнасці вакол Мытнага саюза. Звяртае ўвагу, што цяпер ужо Масква фактычна ва ўльтыматыўнай форме дыктуе, калі беларусы не далучацца да Мытнага саюза, то Расія можа ўвесці рэжым мытнай тэрыторыі на сваіх граніцах з Беларуссю. Гэтыя інтэграцыйныя вузлы так і не ўдалося раней развязаць падчас візіту ў Мінск віцэ-прэм’ера РФ І. Шувалава, тэлефонных перамоў лідэраў абодвух краін. “Падвісла” і магчымае рашэнне расійскага боку наконт выдачы для Беларусі чарговага нафтавага крэдыта ў памеры 2 млрд. USD.

Аб такой просьбе беларускія ўлады звярнуліся да Крамля яшчэ ў пачатку лютага 2010 года аб пазыцы тэрмінам пагашэння на 15 гадоў з-за новых умоў паставак расійскай нафты. Не падпісаны пакуль і дамоўленасці аб супрацоўніцтве з расіянамі ў пытаннях будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі АЭС. Толькі калі мы аддадзім пад кантроль суседзяў цікавячыя іх аб’екты паліва-энергетычнага комплекса, урад Расіі можа пайсці на змякчэнне сваёй пазіцыі і на льготы па пастаўках нам энерганосьбітаў.

Мяркуючы па ўсім, час пустых размоў і адных толькі дэкларацый ужо скончыўся. Цана гэтага пытання велізарная і сур’ёзна ўскладняць адносіны з расіянамі беларусам проста смерці падобна. Калі сёлета пастаўкі беларускіх тавараў на асноўны расійскі рынак выраслі на 52 %, дык заўтра, калі раптам сітуацыя зменіцца, цяжка нават думаць, што будзе тады на айчынных заводах і фабрыках пры амаль сярэднееўрапейскіх цэнах на газ і на нафту. Сваю жорсткую пазіцыю Расія ў адносінах да нас, відавочна, не пераменіць.

Беларусі трэба альбо пускаць сюды расійскі капітал для прыватызацыі сваіх прадпрыемстваў, альбо горш таго, адмаўляцца ад рэальнага суверэнітэта для вырашэння ўзнікшых такіх сур’ёзных праблем. Іншага нечага сёння проста не дадзена, і беларускаму кіраўніцтву да канца чэрвеня трэба будзе зрабіць нейкі складаны выбар.

■ Ул. Скрабатун

# Сасна -волат




**Ля Узрэчча ёсць адна прыродная цікавостка – сасна-волат. Расце яна на кургане – насыпным пагорку. Колькі ёй гадоў? Цяжка адразу сказаць. Упершыню яе ўбачыў гадоў сорак таму. Яшчэ школьнікам. Быў, натуральна, і на столькі гадоў маладзейшы, таму 80-кіламетровую вандроўку на ровары ў адзін бок, і столькі ж у зваротны, адольваў без усялякіх цяжкасцяў. Сасна ля Узрэчча была ж толькі ў пачатку майго даўгога маршрута.**

Дзень сённяшні, красавік 2010 года. У гэтую вандроўку, па Узрэччыне, аўтар выправіўся з Генадзем Трафімавічам Комелем, 29.03. 1934 г.нр. Узрэччына – яго малая радзіма. Спадар Генадзь – вялікі аматар вандровак, і хоць жыве ў Мінску, аднак, штогод, арганізоўвае цэлыя аўтобусныя экскурсіі для мінчанаў па Глыбоцкаму, Пастаўскаму і Браслаўскаму раёнах. Гэтым разам мы выправіліся толькі ўдвох і на ягоных "Жыгулях".

Натуральна, як ужо ўсе здагадаліся, мы найперш прыехалі да ўзрэцкай сасны-волата.

– Тут пахаваны дужа важны чалавек, афіцэр, у рангу не меш, як генерал – з войска генерала кавалерыі П.І. Платава,– апавядае спадар Комель. У Айчынную вайну 1812 года Платаў камандаваў казацкімі палкамі на мяжы, прыкрываў адступленне П.І. Баграціёна да Смаленска. Вось тут, дзесьці у гэтым наваколлі, у нейкай сутычцы з французамі, і загінуў генерал з казацкага войска Платава.

Тут яго і пахавалі. Жаўнеры нанеслі пяску, насыпалі курган. Наверсе пасадзілі ладную сасёнку. На кургане, побач з сасёнкай – утыркнулі піку. Так блізка – упрытык да ствала, што піка прайшлася праз карані сасёнкі. Так і расла сасёнка, і стаяла ўтыркнутая піка. Сасёнка абвілася вакол пікі. Таму ў яе цяпер такі пакручаны, спіралепадобны, ствол.

Сасна пры паляках, не так як пры саветах, ахоўвалася законам, не павінна было побач праводзіцца аніякіх работ, лічылася надмагільным помнікам. Была занесеная ў ахоўныя спісы. Паляі сасну засцерагалі!

Як прыйшлі бальшавікі ў 1939-ым годзе, яе яшчэ не чапалі, хоць тут, паўсюль, пачалі калгасы арганізоўваць: і ў Пятроўшчыне, і ў Узрэччы – два калгасы дробныя. Але вось пасля вайны – спрабавалі спілаваць. Прынеслі пілу даўгую, такую, якой даўней дошкі пілавалі. Ні халеры піла не брала! Столькі гадоў сасне! Сам жа, Валодзя, бачыш – які магутны і трывалы ствол! У два, ці ў два з паловай, абдымы… Дык тады яны захацелі яе спаліць! Калі тут, на кургане, пакорпацца ў зямлі, яшчэ і цяпер знойдзеш вуголле. Таксама нічога не атрымалася! Нават у дупле вогнішча распальвалі.

– Вот жа ж бальшавікі! Абы нешта зламаць, разбурыць, спаліць, адным словам – нашкодзіць! – каментуе пачутае аўтар.

– Цяпер яна ізноў – на картах. Помнік! – працягвае аповяд Генадзь Трафімавіч.

А вось туды – далей ад сасны – метраў трыста, мо болей, на поўнач, лясок быў. Там дом стаяў. Жыў у ім пры паляках немец па прозвішчу Шварцкопф. "Чорная Галава" – у перакладзе з нямецкай. Камарнікам працаваў.

– Каморнік гэта нешта накшталт сённяшняга геадэзіста. Землямер. Ну, ён тут, пэўна, намерыў на карысць немцаў? Адзначыў на картах усё, што патрэбна,– кажу.

– Шварцкопф у 1939 годзе, па абмену бальшавікоў з немцамі, выехаў адсюль,– тлумачыць Генадзь Трафімавіч.

– А мае бацькі жылі тут, побач, за некальки дзесяткаў крокаў ад сасны – на хутары Ігнапаль.

– Дык Вы тут і нарадзіся? Чаго адразу не сказалі?

– Не, па пашпарту я нарадзіўся ў Жарсцвянцы, якую мой бацька арэндаваў у "Чорнай Галавы". Таксама побач.

Выглядае так, што ўзрэцкай сасне-волату – 200 гадоў, калі браць за аснову 1812-ты год, плюс-мінус – год-два.

Тут прыйшлося наноў пераасэнсаваць такое ўжо звыклае цвярджанне – "лес да спеласці расце 80 гадоў". Значыць, і пасля спеласці ён можа стаяць і 100, і 150, нават 200 гадоў? Зразумела, калі яго не пілаваць! Ці так гэта?

Шукаю даступныя мне даведнікі. Проста, заінтрыгавала: колькі ж, насамрэч, гадоў можа жыць сасна? Раней такім пытаннем, прызнаюся, не пераймаўся.

Чытаю: "У канцы другога года сеянец сасны дасягае 25-30 см у вышыню. З 7-15 гадоў у дрэўца пачынаецца перыяд вялікага росту, потым, крыху паменшыўшыся, добрыя прырасты (па 30-50 см) адзначаюцца да 40 гадоў. Пасля 100 гадоў прырост рэзка памяншаецца. Жыве сасна 350-600 гадоў, але ў старасці яе рост амаль спыняецца. У 30 гадоў у сасны настае стадыя сталасці, пачынаюцца гады багатага красавання і добрых ураджаяў жыццяздольнага насення.

Сосны, як правіла, хутка развіваюцца, і вельмі даўгавечныя расліны. Прадстаўнікі шматлікіх відаў жывуць 350-500 гадоў, а сасна, якая расце ў горных лясах Нявады і Каліфорніі (ЗША) сасна асцюкаватая ці даўгавечная (P. longaeva), з'яўляецца рэкардсменам сярод дрэўдаўгавечнікаў – быў знойдзены асобнік гэтага віду, узрост якога вызначаецца прыблізна ў 4900 гадоў".

Што тут казаць, нашая узрэцкая сасна – яшчэ ў юнацкім узросце! Будзе яна яшчэ жыць і тады, калі ўжо ўсе забудуцца не толькі пра нас, але і пра нашых прапрапраўнукаў!



Як гэта было

# Парад Перамогі 1945 года

■ **Кліменцій Кожан,** *Германавічы.*

**Якім быў першы парад Перамогі ў 1945 годзе?**

**Адказ на гэта пытанне даюць Віктар Баранец і Міхаіл Цімашэнка ў артыкуле "Парад Победы", які быў надрукаваны ў газеце "Камсамольская праўда ў Беларусі" 6 мая 2010 года. Прыводзім скарочаны пераклад часткі артыкула, у якім расказваецца, як праходзіў першы парад Перамогі:**

"Рашэнне аб правядзенні Парада Перамогі было прынята Сталіным 24 мая 1945 года пасля разгрому апошняй групоўкі нямецкіх войск. 22 чэрвеня 1945 года ў цэнтральных газетах СССР быў надрукаваны загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага №370. Ён пачынаўся словамі: "У азнаменаванне перамогі над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне прызначаю 24 чэрвеня 1945 года ў Маскве на Чырвонай плошчы парад войск Дзеючай арміі, Ваенна-марскога флота і Маскоўскага гарнізона – Парад Перамогі".

Камандаванне парадам прызначаю двум знакамітым маршалам Савецкага Саюза – Георгію Жукаву і Канстанціну Ракасоўскаму".

Сведкі расказвалі, што Сталін спачатку збіраўся сам прымаць Парад, але незадоўга да 24 чэрвеня перадумаў. Хоць сам умеў ездзіць вярхом і паспрабаваў аднавіць навыкі, але конь яго панёс. Падрыхтоўкай займаўся Генштаб. Справа клопатная, падобная на франтавую аперацыю: трэба было адабраць у войсках 40000 найбольш вылучыўшыхся і перакінуць іх разам з тэхнікай да 10 чэрвеня ў Маскву. Чыгуначнікі гналі літэрня эшалоны без чаргі. Людзей трэба было не толькі размясціць, але і апрануць. Заказ дапучылі фабрыцы "Бальшавічка", падключылі і гарадскія атэлье. Тэхніку размясцілі на палігоне ў Кузьмінках. Улічылі і магчымасць дажджу. Каб коні не слізгаліся, брусчатку на плошчы пасыпалі тырсой – сумессю пяску і апілак. У гонар Парада на Лобным месцы ўзвялі 26-метровы фантан Пераможцаў. Потым яго прыбралі – палічылі недарэчным.

Першым па плошчы ішоў зводны полк барабаншчыкаў-сувораўцаў, потым – зводныя палкі 11 франтоў у парадку іх размяшчэння на тэатры ваенных дзеянняў у канцы вайны – з поўначы на поўдзень і полк Ваенна-марскога флота. З палком 1-га Беларускага фронта асобнай калонай ішлі прадстаўнікі Войска Польскага.

Уперадзе палкоў (у кожным 1059 чалавек) – камандуючыя франтамі і арміямі. Сцяганосцы з асістэнтамі – Героі Савецкага Саюза неслі па 36 сцягоў вызначыўшыхся ў баях злучэнняў і часцей кожнага фронта. І для кожнага палка аркестр з 1400 музыкантаў выконваў асобны марш.

З палкамі да Маўзалея, адкуль за парадам назіраў Сталін, падышлі 200 салдат, яны кінулі да падножжа на спецыяльны драўляны памост сцягі пераможаных варожых дывізій. Першым – лейб-штандарт Гітлера. Вечарам таго ж дня памост і пальчаткі салдат былі спалены. Такая вось дэзінфекцыя ад фашысцкай заразы.

Маршыруючы па Чырвонай плошчы, войскі паварочвалі галовы да трыбуны Маўзалея. А праходзячы міма прадстаўнікоўсаюзнікаў, дэманстратыўна не рабілі гэтага, трымаючы галаву прама. Замыкалі праходжанне полк Наркамата абароны, "каробкі" ваенных акадэмій і вучылішчаў, конная брыгада, артылерыйскія, мотамеханізаваныя, паветрана-дэсантныя і танкавыя часці. Парад працягваўся дзве гадзіны і дзевяць хвілін. Увесь гэты час ішоў праліўны дождж. З-за яго адмянілі паветраную частку параду і шэсце калон працоўных.

Які ж парад без тэхнікі? Чым ваявалі, тое і паказвалі. Брыгады цяжкіх танкаў "Іосіф Сталін-2" і сярэдніх Т-34, прызнаных лепшымі танкамі Другой сусветнай вайны. Палкі самаходак ІСУ-152, ІСУ-122 і СУ-100, чые снарады прабівалі навылет браню абодвух бартоў нямецкіх "Тыграў" і "Пантэр". Батальёны лёгкіх СУ-76, празваных "смерць чатырох танкістаў". Следам ішлі знакамітыя "кацюшы", артылерыя ўсіх калібраў: ад 203мм да 45 мм і мінамёты. Стальная лавіна кацілася па плошчы 50 мінут!

Удзельнік парада ўспамінаў: "З вялікай цікавасцю, пакуль мы праходзілі міма Маўзалея, я некалькі секунд, не адрываючыся, глядзеў на твар Сталіна, які быў задумлівым, спакойным, стомленым і суровым. І нерухомым. Блізка ля Сталіна ніхто не стаяў, вакол яго была нейкая прастора, сфера, зона адчужанасці.

Заканчэнне на стар.6

# Арнітолагі і захавальнікі палічылі вяртлявую чарацянку на ТВП «Сэрвач»



Аўтар і фота
■ Вольга Лукшыц

**З канца траўня АПБ праводзіць улікі вяртлявай чарацянкі на ўсіх вядомых тэрыторыях, дзе гняздуецца рэдкі выгляд.**

Галоўным чынам, гэта тэрыторыі на поўдні Беларусі, але ёсць месцы і ў Віцебскай вобласці – ТВП «Сэрвач» – самая паўночная кропка гнездавання вяртлявай чарацянкі ў Беларусі. З 8-12 чэрвеня ўлікі праводзіліся і тут, удзел у якіх прынялі захавальнікі ТВП «Сэрвач».

На працягу трох вечароў па нізінным балоце вакол возера Сэрвач, прабіраліся арнітолагі і захавальнікі, каб не прапусціць ніводны голас вяртлявай чарацянкі, якая спявае. Ва ўліках самы актыўны ўдзел прыняла пяць захавальнікаў – з г. Глыбокае і в. Дзеркаўшчына – ад вучня адзінаццатага класа да пенсіянера. Некалькі захавальнікаў не змаглі асабіста прыняць удзел ва ўліках, але дапамаглі ў іх правядзенні – падалі лодку для заплыву на далёкую кропку ці падказалі, як лепш праходзіць балота.

Перад пачаткам улікаў быў праведзены семінар, які арганізавалі прама на беразе возера. Удзельнікам распавялі пра біялогію вяртлявай чарацянкі, яе ўнікальнасць і ўразлівасць. Каардынатар сеткі захавальнікаў для ТВП «Балота Званец» Алег Кальчэнка, які прыехаў на Сэрвач адразу пасля ўлікаў на балоце «Званец», распавёў пра методыку ўліку вяртлявай чарацянкі, а гэтак жа дзейнасці захавальнікаў ТВП «Балота Званец».

Падчас улікаў усе ўдзельнікі змаглі ўбачыць вяртлявую чарацянку, а гэтак жа пазналі, як крычыць пагоныш, пастушак, вялікі бугай, чачавіца. У выніку чарацянка была палічана, усе ўдзельнікі шчасліва вярнуліся дахаты, і ніводная адзінка абсталявання не была страчана ці «патоплена».

## Наша даведка:

## ТВП (Тэрыторыя Важная для Птушак) «Сэрвач»

**Месцазнаходжанне:** Віцебская вобласць, Докшыцкі і Глыбоцкі раёны
**Каардынаты:** 55°00 N 27°30 E
Плошча: 9268 гектараў
**Нацыянальны статус аховы:** гідралагічны заказнік рэспубліканскага значэння
**Міжнародны статус аховы:** ТВП (крытэрый А1)

**Тэрыторыя заказніка ўключае возера Сэрвач і частку поймы ракі Сэрвач. Плошча возера – 450 гектараў, сярэдняя глыбіня – 2,8 метра. Возера моцна зарасло трыснягом, шырыня паласы прыбярэжнай надводнай расліннасці вар'іруе ад 15 да 120 метраў. Берагі на захадзе і поўначы сплавінныя, пераходзяць у нізіннае балота.**


Балоты Сэрвачы.

Паўднёва-заходняя частка возера вельмі забалочана, з яе выцякае рака Сэрвач. Шырыня яе рэчышча ў межах заказніка вар'іруе ад 2-5 да 15-25 метраў. Шырыня поймы 1-2,5 кіламетры. Пойма возера і ракі ўяўляюць сабой нізіннае асаковае балота, на якім сустракаюцца як адкрытыя, так і моцна зарослыя хмызнякамі ўчасткі. У некаторых месцах нізіннае балота змяняецца пераходным. З паўночнага захаду да балотнага масіву прылягаюць хваёва-шыракаліставыя і змешаныя лясы.

Тэрыторыя заказніка знаходзіцца непадалёку ад водападзела паміж басейнамі рэк Нёман, Заходняя Дзвіна і Дняпро. Рака Сэрвач упадае ў Вілейскае водасховішча і з'яўляецца адной з важнейшых крыніц, якія фарміруюць баланс Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.


Вяртлявая чарацянка

На тэрыторыі заказніка ажыццяўляюцца наступныя віды гаспадарчай дзейнасці: торфаздабыча (тут сканцэнтраваны вялікія запасы гідролізнай сыравіны), лесакарыстанне, выпас жывёлы, сенакашэнне, вырошчванне прапашных культур.

Фауна і флора заказніка вывучаны недастаткова. Толькі ў 2001 годзе ў выніку экспедыцыйных работ было выяўлена пражыванне ў заказніку двух відаў птушак, якія знаходзяцца пад пагрозай глабальнага знікнення: вяртлявай чарацянкі Acrocephalus paludicola і дубальта Gallinago media. Гэта крайняя паўночная кропка распаўсюджання вяртлявай чарацянкі ў Беларусі.

Сустракаюцца тут і іншыя рэдкія віды: чапля-бугай Botaurus stellaris, шэры журавель Grus grus.

З рэдкіх раслін на тэрыторыі заказніка адзначана бяроза каржакаватая Betula humilis.

**Неспрыяльныя фактары:**

- забруджванне вады возера сцёкамі з узараных схілаў;
- выпальванне расліннасці ў веснавы перыяд, асабліва ў сухое надвор'е, наносіць істотнуюстратубіялагічнай разнастайнасці;
- асушэнне тэрыторыі для здабычы торфу.

**Неабходныя меры аховы:**

- неабходны дадатковыя даследаванні па інвентарызацыі флоры і фауны заказніка, а таксама больш падрабязнае вывучэнне неспрыяльных фактараў.



# За выплачаную суму штрафу можна юшку есці цэлы год

■ А.А. Федзічкін,
*намеснік начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Беларусь не абдзеленая воднымі рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне і Глыбоцкі раён. На тэрыторыі раёна размешчана больш 100 азёраў і вадаёмаў, шматлікія з іх размешчаныя ў найпрыгажэйшых мясцінах.**

З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта кажа пра тое, што ёсць у іх шмат рознай рыбы, можна добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян інспекцыяй штотыдзень перарываюцца спробы незаконнай здабычы рыбы.

Так, 11 чэрвеня 2010 года супрацоўнікам інспекцыі паступіў сігнал ад грамадзян пра тое, што на возеры Шо Глыбоцкага раёна ўсталяваныя браканьерскія сеткі. Рэйдавая група амаль суткі знаходзілася ў засадзе і ў выніку затрымала 2 жыхароў г. Полацку, грамадзян Б. і П.. якія ўсталявалі на возеры 16 сетак і здабылі 216 асобінаў розных відаў рыбы, шкода прычыненая прыродным рэсурсам склала больш 6 млн. рублёў, матэрыялы накіраваныя ў Глыбоцкі РАУС для дачы дзеянням парушальнікаў прававой адзнакі. Максімальнае пакаранне для парушальнікаў Закон прадугледжвае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

19 чэрвеня 2010 года каля 2 гадзін ночы супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Бяглец затрыманы работнік РУП ЖКГ грамадзянін Л., які ажыццяўляў ахову змешчаных на возеры катамаранаў, але замест аховы ён выкарыстоўваў іх для ўсталёўкі браканьерскіх сетак, адзнаку дзеянням ахоўніка дасць раённы суд.

19 чэрвеня 2010 года каля 17 гадзін трое жыхароў Глыбоцкага раёна вырашылі зварыць юшку, але для юшкі патрэбная рыба, дзе яе ўзяць пытанне не стаяла. Узялі броднік і пайшлі на раку Аржаніца паблізу в. Прыпернае Глыбоцкага раёна, але грамадзяне не ўлічылі, што работнікі інспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС працуюць і ў выхадныя дні. Сумесная рэйдавая група і затрымала парушальнікаў, а за выплачаную суму штрафу можна юшку есці цэлы год.

Гэта толькі невялікая колькасць прыкладаў затрыманняў правапарушальнікаў. Усцешна, што з кожным днём усё радзей і радзей на нашых вадаёмах сустракаюцца браканьеры, а людзі з разуменнем ставяцца да праблем захавання рыбных рэсурсаў, неацэнную дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі аказваюць простыя рыбаловы-аматары, велізарны ім дзякуй.

Немагчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Шматлікія берагі азёраў завалены смеццем пасля рознага роду пікнікоў, гулянў, і толькі пакараннем гэту праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёраў і дапамогі грамадзян у гэтым пытанні мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў. Артыкул хацелася б скончыць словамі А.В. Якавенкі.

*Всяк сможет действовать иначе:*
*Ценить, беречь, хранить всегда,*
*Когда поймет, что в жизни значит*
*Её Величество Вода*

Тэлефоны «гарачай лініі»: **8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 351-28-12.**

### Як гэта было

# Парад Перамогі 1945 года

**Заканчэнне.**
*Пачатак на стар. 4*

Ён стаяў адзінока. Якіх-небудзь асаблівых пачуццяў, апрача цікавасці, я не адчуў. Вярхоўны Галоўнакамандуючы быў недасягальны. З Чырвонай плошчы я выходзіў акрыленым. Свет быў уладкаваны правільна: мы перамаглі. Я адчуваў сябе часцінкай народа-пераможцы…”

На прыём у Крэмль з нагоды парада было запрошана 250 гасцей. На ім Сталін сказаў свой знакаміты тост, у якім былі такія словы: “ Я п'ю, перш за ўсё, за здароўе рускага народа, таму што ён з'яўляецца найбольш выдатнай нацыяй з усіх нацый, увaходзячых у склад Савецкага Саюза. Я падымаю тост за здароўе рускага народа не толькі таму, што ў яго ёсць ясны розум, стойкі характар і цярпенне… Дзякуй яму, рускаму народу, за гэта давер'е!”

Больш Сталін не наладжваў падобных урачыстасцяў ні 24 чэрвеня, ні 9 мая: разумеў – краіну трэба аднаўляць. Толькі ў 1965 годзе Дзень Перамогі стаў у нас афіцыйным святам. І парады сталі праходзіць 9 мая рэгулярна.

Як бачым, пакуль жыў Сталін, пакуль ва ўладзе былі яго саратнікі і яго маршал, ні аб якім свяце Перамогі не было і гаворкі.

Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны прайшло 65 гадоў. За ўвесь гэты час я не знайшоў адказу на пытанне: “Чаму Вярхоўны Галоўнакамандуючы І. В. Сталін не прымаў сам Парад Перамогі?” Гэта пытанне хвалявала многа людзей і ў час Парада Перамогі. Ніхто не задаваў непрыемнае пытанне. Народ ведаў, што за лішняе пытанне можна папасці ў самыя далёкія і суровыя месцы краіны. Афіцыйныя гісторыкі адказу на гэта пытанне не далі. Яны нават не паставілі яго. Чаму абыходзяць яго сарамлівым маўчаннем?

Нядаўна прыйшлося прачытаць кнігу Віктара Суворава «Последняя Республика. Почему Советский Союз проиграл Вторую мировую войну?” Першая глава кнігі называецца “Почему Сталин отказался принимать Парад Победы?” Аўтар выказвае на гэты конт сваю думку. Ён лічыць, што Парад Перамогі быў для Сталіна парадам піравой перамогі, гэта значыць, перамогі, якая раўназначна паражэнню. Мы ўжо прывыклі святкаваць «Дзень Перамогі», але пры Сталіне такога свята не было. 1 мая мы святкавалі як дзень агляду сіл сусветнага пралетарыяту, як дзень гатоўнасці да Сусветнай рэвалюцыі. 1 мая на Чырвонай плошчы праходзіў ваенны парад, а 9 мая мы ўсе працавалі. Сталін лічыў, што нечага было святкаваць. Другая сусветная вайна была прайграна Савецкім Саюзам. Сталін гэта ведаў. І ўсе яго бліжэйшыя саратнікі гэта ведалі і разумелі. Каб атрымаць адказ на пытанне “Чаму Сталін адмовіўся прымаць Парад Перамогі?”,трэба прачытаць усю кнігу “Последняя Республика”, вярнуцца ў часы камуністычнай дыктатуры, у часы ўтварэння СССР.

# Крыху з гісторыі з гумарам і папярэджаннем!!!

■ **Салодкі А.П.,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, старэйшы лейтэнант унутранай службы.*

Забарона ў Расіі на курэнне, а гэтак жа на продаж тытуню быў зняты Указам Пятра І у 1697 годзе. Не толькі таму, што цар заахвоціўся да курэння сам. Галоўнае – казна атрымлівала каласальныя прыбыткі ў выглядзе мыт ад купцоў за продаж тытуню. Тады і пачалося ў нас масавае курэнне ў войску, на флоце, курыць сталі і грамадзянскія людзі.

Калі тытунь быў завезены ў краіну, купцы на ўсе лады сталі расхвальваць свой тавар. Яны запэўнівалі, што тыя, якія кураць, маюць шмат перавагаў перад тымі, што не кураць: першыя, маўляў, не старэюць, да іх уначы не залазіць злодзей, яго ніколі не пакусае сабака і што тыя, якія кураць, будуць жыць у новай хаце.

Слухалі людзі і дзівіліся такім цудам. Праўду ці няпраўду распавядаюць?

Вырашылі спытаць мудраца. Доўга думаў той, а потым сказаў: «Купцы гавораць праўду. Падумайце самі, ці можа пастарэць чалавек, які курыць. Вядома, не. Ён памірае ад тытуню з маладу. А хіба злодзей палезе ў хату да курца, калі той усю ноч кашляе і дрэнна спіць. А сабакі не кусаюць тых, хто курыць, таму што рана пачынаюць хварэць суставы і яму даводзіцца хадзіць з палкай... І апошняе – у новай хаце – таксама правільна, ад курэння ўзнікаюць пажары, і курцу воляй-няволяй даводзіцца будаваць новую хату».

Вядома – жарт.

Не думайце, што кажам мы ўсё гэта не дзеля слова. Справа ў тым, што штогод у раёне адбываецца вялікая колькасць пажараў ад неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні. Па гэтым чынніку гінуць людзі.

Таварышы, якія кураць! Любая нядбайнасць з цыгарэтай можа прывесці да пажару.

**МНС ІНФАРМУЕ НА 21.06.2010.**
**Віцебская вобласць:**
**Пажараў – 733;**
**Гібель – 134 чалавек, з іх дзяцей няма;**
**Урон – 1 448 700 000 руб.,**
**Глыбоцкі раён:**
**Пажараў – 35;**
**Гібель – 6, з іх дзяцей няма;**
**Шкода – 74 500 000 руб.**

# Пажар на вул. Яснай



■ **Ул. Скрабатун**

**Ад чаго загарэўся гэты стары, вельмі вялікі і даўгі, яшчэ «польскі дом», – пакажа следства. Аднак, крыніца, якая заслугоўвае даверу і пажадала быць неназванай, паведаміла, што адна з асноўных версіяў пажару – падпал.**

Пажар адбыўся ў мінулую пятніцу, а 9-ай увечары. Пажар – гэта страшнае відовішча! У кагосьці гора…

Аўтар, які жыве побач, завітаў на месца падзеяў. Ужо працавалі дзве пажарныя машыны. Былі сірэны, пад'язджалі іншыя. Мясцовыя жыхары дапамагалі выратавальнікам адшукаць вадаправодныя калодзежы з гідрантамі, раскатваць шлангі... Аднак, праз колькі часу сабралася дужа шмат цікаўных і ніўкога ў вачах не было ніякага спачування! Сабраліся, як на шоў! Раніцою наступнага дня, вяртаючыся з крамы, побач мяне спыніўся мікрааўтобус. За рулём і знаходзіўся гаспадар тае крамы.

– Учора быў пажар на Ясьнай,– кажа камерсант. – Гэта ж трэба – так здэградаваў наш народ, асабліва моладзь! У людзей гора! А яны збегліся з усяго гораду, як на цыркавое відовішча. Міліцыянты не пускаюць машыны на Ясную, а яны не падпарадкоўваюцца, аб'язджаюць, едуць да самога пажару. Замінаюць пажарнікам! Вылазяць з машыны і ідуць абняўшыся ці пад ручкі. Ледзьве не цалуюцца і фоткаюцца на фоне пажару. Засталося толькі папракнуць пажарнікаў і міліцыянтаў, што не захвацілі з сабой на гэты алярм зэдлікі і лаўкі для гледачоў! У людзей сталага ўзросту яшчэ і сёння засталося ў душы хоць нейкае спачуванне, яны гатовыя вёдрамі насіць ваду, абы хоць неяк дапамагчы. Моладзь, а – саўкі саўкамі!!!» – такімі словамі скончыў сваё абурэнне камерсант.

## Падзяка!

Дзякую ўсім добрым людзям за дапамогу ў тушэнні пажара на доме па вуліцы Ясная, 12.

*Сям'я Жанны Растоўскай.*




*Таццяну Самсонаву*



**Віншуем з нагоды Дня нараджэння!**

Сегодня, в День рожденья твой,
Желаем сердцем и душой:
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!

*Яўген, Галіна, Саша, Віця і Алінка*

*Аляксандра Самсонава*



**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть будет все, что в жизни нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, верность, дружба
И вечно юная душа.

*Бацькі*

# «Скажы, дзе гандлююць смерцю!»

Па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і пры падтрымцы Міністэрства аховы здароўя і Цэнтральнага камітэта грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» 24 чэрвеня 2010 года пройдзе акцыя «Скажы, дзе гандлююць смерцю!».

У гэты дзень з 8.00 да 18.00 ва ўсіх абласных цэнтрах краіны будуць працаваць «гарачыя лініі», па якіх можна паведаміць (у т.л. і ананімна) інфармацыю пра наркагандляроў, а таксама пра месцы распаўсюду, захоўвання ці спажывання наркатычных і псіхатропных рэчываў. Прыватнасць званкоў гарантуецца.

Нумары тэлефонаў «гарачых ліній»:

- Віцебская вобласць – (0212) 24-62-07 ці 36-42-37;

Акрамя таго, на «гарачай лініі» па тэлефоне (017) 222-65-45 лекары-нарколагі адкажуць на пытанні, звязаныя з праблемамі ўжывання наркотыкаў, параяць, якія крокі распачаць, каб пазбавіцца ад нарказалежнасці. Адмыслова для бацькоў плануецца абмеркаванне пытанняў, актуальных у перыяд летніх вакацый – як усцерагчы падлетка ад залежнасці (наркатычнай, нікацінавай, камп'ютарнай і г.д.), як распазнаць першыя прыкметы ўжывання наркотыкаў і дзе шукаць дапамогі.




**Так змяніўся чалавек усяго за 1,5 года ўжывання наркотыкаў.**

Па словах начальніка ўпраўлення па наркакантролі і процідзеянню гандлю людзьмі МУС Рэспублікі Беларусь Аляксандра Гаўрылава, акцыя накіраваная на тое, каб ахаваць людзей ад небяспекі быць уцягнутымі ў наркабізнес. Апошні сёння з'яўляецца адным з самых прыбытковых у свеце, таму жаданне ім займацца ў пэўнай часткі насельніцтва застаецца вельмі высокім. За пяць месяцаў 2010 года ў нашай краіне канфіскавана каля 60 кілаграмаў наркатычных сродкаў, а таксама каля 30 кілаграмаў псіхатропных рэчываў. Гэтыя наркотыкі маглі патрапіць у рукі нашым дзецям!

Акцыя «Скажы, дзе гандлююць смерцю!» пройдзе напярэдадні Міжнароднага дня барацьбы са злоўжываннем наркатычнымі сродкамі і іх незаконным зваротам, які адзначаецца ва ўсім свеце 26 чэрвеня.

*Глыбоцкі РАУС*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

28 чэрвеня – 4 ліпеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 28 чэрвеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00,23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.00** Женское ток-шоу
**11.00**«Звездный бэби-бум».
**12.10 «Па: Современная городская сказка»**
**13.50** «OFF STAGE LIFE»
**14.05** «Красный бархат Кыргызстана».
**15.15, 18.15** Новости региона.
**15.25** «Культурные люди».
**15.55** Премьера. **«Семь жен одного холостяка»** (Россия). 1 с.
**17.05** «Прости меня».
**17.30** Арена.
**17.50, 00.20** «Зона Х».
**18.25 «Не родись красивой»**
**19.25** «КЕНО».
**19.30** Ток-шоу «Ответный ход».
**20.30** Панорама.
**21.10** «Нелогичный город Лагич».
**21.25** Футбол. Чемпионат мира. 1/8 финала. Прямая трансляция.
**23.25 «Части тела-5 «**
**00.25** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Борис Хмельницкий. Стрела в сердце Робин Гуда».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Микки Маус. Домашний клуб».
**11.30 «Моя жена меня приворожила»**.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20«Папа на всеруки»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10 «Остаться в живых»**.
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** «Преступления века».
**00.05** «Авиаслалом. Чемпионат мира».
**01.05 «Говорящая с призраками»**.
**01.55** Наши новости.
**02.10-02.20** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»**
**08.30** Час суда.
**09.30** В этот день.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.40** «Пра мастацтва».
**11.05** Школа ремонта.
**12.00** «Солдаты Италии»
**12.35 «Полюби меня снова»**
**13.35 Мультфильм.**
**13.45** Внеклассный час.
**14.00** Телебарометр.
**14.15** Час суда.
**15.20** Простые упражнения
**15.55 «Любовь как любовь»**
**16.55**Футбол.Чемп.мира. 1/8 финала. Прямая трансляция.
**19.00 «Анатомия Грэй-4»**
**19.55** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Большое сердце.
**21.45 «Универ»** (Россия).
**22.20 «На безымянной высоте»**1-я серия.
**23.30** «Время футбола». Чемпионат мира-2010.
**00.10** «Страсть и власть».



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Дальние родственники».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».



**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 «ОТТЕПЕЛЬ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25 «БРАТСТВО ВОЛКА»**. Франция

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**07:55** Басанож па свеце
**08:20** Побач з намі
**08:35** «Два-тры пытанні пра актывізм»
**09:35** Вагон
**09:40 «Арол: крымінальная сага»,**
**10:40 «Загадкі Мэрдака»,**
**11:30 «Ляціце на Расінанце»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»**13сер.
**17:30 «Арол: крымінальная сага»,**
**18:30** Аўтастопам праз Еўропу: «Бельгія»
**18:55** Прэс-экспрэс
**19:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:25 «Аблавушак»**, мультсерыял
**19:35** Еўропа сёння
**20:05** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**20:30** «Мой Кесьлёўскі»,
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:40 «Ляціце на Расінанце»**
**23:05** Аб'ектыў

